# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 20 14 мая 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2266) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).


## ЗВАРОТ

### МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ «БЕЛАРУСЬ — ФРАНЦЫЯ» (БЕЛФРАНС) ДА ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

17 кастрычніка 1991 года ў Мінску паўстала, здабыўшы затым рэгістрацыю і статус юрыдычнай асобы, Міжнародная асацыяцыя «Беларусь-Францыя». У ліку яе заснавальнікаў грамадзяне, установы, арганізацыі, прадпрымальнікі памянёных дзяржаў.

Наша грамадская інстытуцыя ставіць сваёй галоўнай мэтай спрыяць станаўленню і развіццю двухбаковых узаемаадносін суверэннай Беларусі, як дасведчанага і адказнага іхняга суб'екта, з Французскай Рэспублікай. Маем на ўвазе тут шырокі дыяпазон эканамічных, культурных і гуманітарных сувязяў. Згодна з гэтым асацыяцыя ўжо зрабіла першыя крокі ў накірунку да зладжвання супольных прадпрыемстваў, арганізацыі абмену навукова-тэхнічнай і камерцыйнай інфармацыяй, дзелавога і культурнага турызму, выстаў, канцэртаў беларускіх творчых калектываў, кірмашоў у Францыі і іншых краінах Заходняй Еўропы.

Асобным, прыярытэтным радком у парадку дня работы асацыяцыі з'яўляецца ўсталяванне і адбудова лучнасці з тымі грамадзянамі Францыі, хто мае з Бацькаўшчынай карані адзінакрэўнасці, з нашымі суайчыннікамі.

Але каб надаць нашым планам і задумам жыццядзейнасць, рэальнае, плённае і ўзаемавыгаднае ўвасабленне, нам неабходна матэрыяльная і фінансавая падтрымка.

Паважаныя супляменнікі! Калі вы маеце зацікаўленне бізнесмена ва ўсталяванні трывалых, перспектыўных адносін з беларускімі партнёрамі ці інтарэс чалавека багатага культурнага багажу да духоўнай еднасці, радавога слова, беларускасці, паглыблення ведаў аб гістарычнай радзіме сваіх бацькоў, дзядоў, прашчураў, «Белфранс» заклікае вас да супрацоўніцтва. Да вашага ведама і распараджэння — адрас пастаяннага прадстаўніцтва асацыяцыі ў Францыі:

65, Rue Gravillers, Paris, 75003, Mission Catholigue Bielorussienne en France, tel. 42-77-86-53, 39-13-22-56.

Кантактныя тэлефоны ў Мінску: 29-16-38, 58-23-89. ЦМЫГ Мікола. ВР 204 Minsk, 220136.

Фінансавыя даткі пералічваюцца на бягучы рахунак № 700035 у камерцыйным банку «БЕЛАРУСЬ» г. Мінска, Міжнародная асацыяцыя «Беларусь — Францыя».

РАДА АСАЦЫЯЦЫІ.






## РАДАЎНІЦА—

старажытнае свята, якое прыйшло да ўсіх усходніх славян з часоў язычніцтва, свята памінання памёршых продкаў. Няма народа, калі знішчаны яго карані, не было б кожнага з нас без вядомых і невядомых нам прадзедаў і дзядоў. А што мы пра іх ведаем, пра іх жыццё, учынкі, рысы характару! Складаць радаслоўныя мы так і не навучыліся. А шкада! Колькі цікавага даведаліся б пра самых сябе. У штодзённым тлумным жыцці бракуе часу, каб падумаць пра вечнасць, успомніць ціхім шчырым словам блізкіх, на долю якіх выпалі не лепшыя часы. Нашы дзяды і бацькі прайшлі праз рэпрэсіі, перажылі вайну, цярпелі голад і недахоп самага неабходнага, толькі каб нам, іх дзецям, і ўнукам, жылося лепш, больш спакойна і радасна. Не спраўдзіліся іх спадзяванні. Мы жывём значна цяжэй, чым жылі яны, бо страцілі самае галоўнае, на чым трымаецца чалавек, — веру. Нам не хапае дабрыні, спагады, чалавечнасці, беражлівых адносін да дзяцей, да старых і нямоглых.

Продкі нашы былі мудрэйшымі і больш сумленнымі. Часам падсвядома мы гэта адчуваем і ідзём да іх магіл, каб сцішана і нетаропка падумаць пра сябе і пра сваё жыццё, асэнсаваць вопыт мінулага і аддаць даніну павагі і памяці тым, хто прайшоў па зямлі раней за нас.

Сёлета ўпершыню Радаўніца, як і ўсе важнейшыя рэлігійныя святы, была нерабочым днём. Здавалася, увесь Мінск зрушыўся з месца і ў светлую маёвую раніцу накіраваўся ў Чыжоўку, на Усходнія і Паўночныя могілкі, на Вайсковыя, што ў цэнтры горада, у Курапаты, дзе пахаваны тысячы ахвяр сталінскага рэжыму. Памінальны абрад адбыўся так жа, як і стагоддзі таму: на прыбраных магілах блізкіх рассціlabaліся ручнікі ці абрусы, клаліся фарбаваныя яйкі, булкі, мяса, ставілася гарэлка. Розніца толькі ў тым, што, па старажытных абрадах, гарэлкі павінна было быць зусім нямнога, па сённяшніх звычаях, часам занадта многа. І тады жалобныя думкі перапыняліся гучнай музыкай і нават спевамі. Такія ўжо мы...

На Вайсковых могілках у царкве Аляксандра Неўскага адбылася паніхіда, хрэсны ход. Прадстаўнікі гарадской улады, грамадскасці ўсклалі кветкі ў Курапатах, у Чыжоўцы да магіл воінаў, якія загінулі ў Афганістане, на Усходніх могілках — выдатных людзей Беларусі.

Усё часцей звяртаемся мы да свайго мінулага, да сваіх вытокаў, да вопыту продкаў. Можа гэты шлях і вядзе да выратавання!

Фота В. СТАВЕРА.

ЎРУЧАНЫ ВЯРЫЦЕЛЬНЫЯ ГРАМАТЫ



Пачатак мая быў азнаменаваны ў Мінску, так бы мовіць, дыпламатычным парадам. Адзін за адным у сталіцу Беларусі прыбывалі паслы замежных дзяржаў і ўручалі свае вярыцельныя граматы. Фінляндыю ў Беларусі прадстаўляе Таёта Вейка Талванен, Кітай — Ван Сінда, Турцыю — Тансу Акандан, Італію — Джанлука Берцінета.

НА ЗДЫМКУ: вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу ШУШКЕВІЧУ ўручае Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Фінляндскай Рэспублікі Таёта Вейка ТАЛВАНЕН.

ФІНАНСАВАЯ СІТУАЦЫЯ

## ДЗЕ ЎЗЯЦЬ ГРОШЫ?

Беларусь сутыкнулася з хранічным недахопам грашовай масы.

Гэтую сітуацыю карэспандэнт БЕЛТА папрасіў пракаменціраваць старшыню праўлення Беларускага нацыянальнага банка Станіслава БАГДАНКЕВІЧА:

— Толькі што мы атрымалі з Расіі 600 мільёнаў рублёў. Гэтыя грошы адразу ж былі накіраваны ў Віцебск і Гомель, дзе былі значныя затрымкі з выплатай заработнай платы і пенсій. Але сітуацыя застаецца складанай, таму што агульная сума неплацяжоў у рэспубліцы складае больш двух мільярдаў рублёў. У бліжэйшы тыдзень паступленняў грошай з Расіі не чакаецца. Улічваючы складанасці з грашовай масай, мы рэкамендуем жыхарам рэспублікі, якія маюць уклады, карыстацца пры магчымасці безнаяўнымі разлікамі.

Ну а калі ўкладчыку ўсё-такі неабходна атрымаць на рукі буйную суму? На гэтае пытанне адказвае старшыня праўлення Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь Уладзімір Лузгін:

— Ніякіх спецыяльных абмежаванняў пры выплаце ўкладаў Ашчадбанк не прымаў. Грамадзянін можа зняць з рахунка тую суму, якая яму неабходна. Праўда, пры наяўнасці ў даным філіяле Ашчадбанка грошай.

ПРАБЛЕМЫ СТАЛІЦЫ

## КАЗНА ПУСТАЯ

Бюджэт горада Мінска, зацверджаны на гэты год гарвыканкомам, поўнасцю зрасходаваны. Дэфіцыт яго складае сёння 400 мільёнаў рублёў. Пра гэта паведаміла на прэс-канферэнцыі начальнік фінансавага ўпраўлення Людміла Якавенка.

Самае балючае пытанне горада — фінансаванне капітальных укладанняў. Насцярожвае набліжэнне энергетычнага крызісу. Жыццё надта хутка даражае. Напрыклад, сабекошт адной паездкі ў транспарце абыходзіцца гарадской казне ўжо 7 рублёў і больш, а білет каштуе адзін рубель. На датацыі катастрафічна не хапае грошай.

Прадпрыемствы ўсё часцей адмаўляюцца ўтрымліваць ведамасныя дзіцячыя сады, бальніцы, піянерскія лагеры: нявыгадна. Яны перакладваюць клопат на плечы гарадскіх інстанцый. Зусім рэальная магчымасць — прыпыненне ўсяго будаўнічага комплексу Мінска.

АДРАДЖЭННЕ

## ПРАВАСЛАЎНАЕ БРАЦТВА

У Мінску адбыўся ўстаноўчы сход новай грамадскай арганізацыі — Беларускага праваслаўнага брацтва пры мінскім Свята-Петрапаўлаўскім саборы. Яго старшынёй выбраны Мікола Матрунчык.

Сход благаславіў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Мэтай брацтва стане далейшае адраджэнне праваслаўя на Беларусі і правядзенне беларусізацыі Праваслаўнай царквы ў рэспубліцы. У новую арганізацыю ўжо ўвайшлі каля ста чалавек, у іх ліку святары, дзеячы навукі, народныя дэпутаты. Сярод бліжэйшых акцый брацтва — удзел у перадачы сабору лампады з Іерусаліма, якая запалена ад агню ля самой труны Госпада.

«БАЛТЫЯ ЭЙРЛАЙНЗ»

## ЛЯЦІМ ДА МІНСКА

Новая амерыканская авіякампанія «Балтыя эйрлайнз» пачынае палёты ў гарады прыбалтыйскіх рэспублік і Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Як паведаміла са спасылкай на прадстаўнікоў фірмы дасведчаная газета «Джорнэл оф комерс энд комершл», адкрыццё гэтых маршрутаў намечана на 15 чэрвеня.

Авіякампанія, штаб-кватэра якой з'явілася тут адносна нядаўна, будзе кожны тыдзень ажыццяўляць пяць беспасадачных рэйсаў паміж Нью-Йоркам і Санкт-Пецярбургам. Яшчэ чатыры рэйсы «Балтыі» звяжуць буйнейшы горад ЗША з Рыгай. Праз сталіцу Латвіі будуць ажыццяўляцца тры разы на тыдзень палёты ў Кіеў. Чакаецца, што ў канцы чэрвеня гэтыя рэйсы стануць рэгулярнымі, а ў жніўні ў раскладзе палётаў з'явяцца дадатковыя пункты прызначэння — Мінск і Тбілісі, куды пасажыры за Злучаных Штатаў будуць дабірацца таксама з перасадкай у Рызе. Для трансатлантычных пералётаў «Балтыя» мае намер выкарыстоўваць самалёты «Боінг-767-200», а ўнутры СНД — «Боінг-737».

У ЗОНЕ

## ЗНОЎ ЧАРНОБЫЛЬ

Чарнобыльскую АЭС зноў ахінула полымя. На гэты раз вакол станцыі, пакуль што на адлегласці 5—6 кіламетраў, гараць палі і лясы. Амаль дашчэнту згарэлі ўжо тры бязлюдныя вёскі ў 10-кіламетровай зоне. Паводле прыблізных звестак, агонь прайшоўся ўжо па 2 тысячах гектараў беларускай тэрыторыі зоны і амаль па 3 тысячах украінскай. Не трэба тлумачыць, што пажар у чарнобыльскай зоне тоіць у сабе страшную небяспеку — разам з дымам і полымем у паветра ўзнімаюцца мільярды радыенуклідаў і разносяцца на чыстыя тэрыторыі.

Але, як заявіў прадстаўнік Белгідрамета, кантрольныя замеры і назіранні паказалі, што ніякіх змяненняў радыяцыйнага фону не заўважана.

ЗДАРЭННІ

## СТРЭЛЫ Ў МЕТРО

Гэта здарылася ў 00.20 мінут 27 красавіка на станцыі метро «Кастрычніцкая» сталічнага метрапалітэна. Дзяжурыў супрацоўнік АУС малодшы сяржант С. Козел. Да закрыцця метро заставалася 40 мінут. Па вопыту службы міліцыянер ведаў, што апошнія мінуты будуць самымі напружанымі. Вопыт не падвёў. Мінут праз дзесяць паказалася група з чатырох чалавек, яўна падпіўшыя. С. Козел зрабіў заўвагу, але вырашыў адпусціць хлопцаў. Раптам падшпілі яшчэ двое п'яных. На гэты раз сяржант вырашыў праявіць цвёрдасць і не прапускаць іх да эскалатара. Аднак нечакана апынуўся ў акружэнні шасцярых чалавек, адзін з якіх трымаў перад тварам міліцыянера балончык з нервова-паралітычным газам. Праз імгненне задушлівы струмень ударыў у твар Козелу. Адначасова быў нанесены ўдар па галаве цяжкім прадметам. І калі б дзяжурная па станцыі не выклікала па селектару міліцыянераў, якія неслі службу на суседніх участках, аб выніках было б няцяжка здагадацца: пры сяржанце была табельная зброя.

Падаспеўшыя супрацоўнікі АУС па ахове метрапалітэна С. Тумілеў і В. Жук затрымалі трох правапарушальнікаў. Астатнія ўцяклі. Уладальніка балончыка працягваў праследаваць С. Козел. Ля эскалатара ён паспрабаваў спыніць уцекача папераджальным выстралам, але той не рэагаваў на гэта. І напэўна ўцёк бы, калі б яго не спыніў палкоўнік, які ў гэты момант аказаўся побач.

*«Дзяржава павінна стымуляваць і накіроўваць працэс росту нацыянальнай самасвядомасці і дзяржаўнага патрыятызму, бо іншага сродку для кансалідацыі грамадства, іншай масавай станоўчай самасвядомасці ў нас зараз проста не можа быць. Як жа дзяржава можа ўплываць на гэты працэс? Па-першае, шляхам папулярызацыі слаўтай беларускай гісторыі, найперш — ваеннай гісторыі. Менавіта гістарычная памяць, гонар за слаўтыя дзеі продкаў з'яўляюцца асновай нацыянальнай годнасці і самасвядомасці. Па-другое, павінна весціся прапаганда і ўхваленне такіх рысаў нацыянальнага беларускага характару, як талерантнасць, павага да людзей іншых нацыянальнасцяў і верацярпімасць. Па-трэцяе, неабходна адначасова з папулярызацыяй беларускай гісторыі прапагандаваць удзел прадстаўнікоў нацыянальных меншасцей у абароне Беларусі, іх уклад у пабудову беларускай дзяржавы. Трэба падкрэсліваць тую думку, што патрыётам Беларусі павінен быць кожны яе грамадзянін, незалежна ад яго нацыянальнасці».*

*Мікалай СТАТКЕВІЧ, старшыня патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў».*

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Ірыне Храменкінай — медыцынскай сястры, — трансплантавалі касцявы мозг яе сястры. Аперацыю правялі ў Мінскай абласной бальніцы загадчык гематалагічнага аддзялення Савасцьянаў і дацэнт кафедры хірургіі Мінскага медінстытута Уладзімір Бальшоў. Перасадка касцявога мозгу ў Беларусі ажыццёўлена ўпершыню.

● 28 красавіка з тэрыторыі Беларусі была вывезена апошняя адзінка тактычнай ядзернай зброі. Такім чынам, рэспубліка дакладна выконвае падпісаныя адпаведныя пагадненні.

● У час сустрэчы міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанкі з генеральным консулам Польшчы ў Мінску Э. Смулэк абмяркоўваліся пытанні, якія маюць дачыненне да адкрыцця беларускага пасольства ў Варшаве ды абмену консульскімі ўстановамі ў Гродне і Гдыні.

● Першы ў Беларусі незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў утвораны ў Мінску. Яго галоўная мэта — садзейнічаць фарміраванню грамадзянскай супольнасці ў рэспубліцы і развіццю прыватнага прадпрымальніцтва.

● За год аўтамабільны транспарт у рэспубліцы падаражэў у 6,9 раза, чыгуначны — у 9, авіяцыйны у 5,1 раза. А наогул цэны з сакавіка мінулага года па сакавік сёлетні выраслі аж у 14 разоў.

ШМАТРАЗОВЫЯ КУПОНЫ

Такія шматразовыя купоны мяркуецца ўвесці ў хуткім часе ў Рэспубліцы Беларусь (на здымку). Яны вельмі падобныя на звычайныя грошы. Кожны разліковы білет пэмечаны нумарам, што дазволіць кантраляваць агульную масу. Усяго будзе восем відаў купонаў — ад 50 капеек да ста рублёў.



# АКЦЭНТ НА АБАРОНЧЫЯ СІЛЫ

Як ужо вядома, міністрам абароны Рэспублікі Беларусь назначаны генерал-лейтэнант Павел Казлоўскі, які кіраваў да гэтага штабам Беларускай ваеннай акругі і займаў пасаду першага намесніка камандуючага акругай. Карэспандэнты БЕЛТА звярнуліся да яго з просьбай выказаць свой пункт гледжання на абарончую палітыку рэспублікі і пытанні ўнутрыдзяржаўнага ваеннага будаўніцтва.

— Я лічу, што адной з першаступенных задач Міністэрства абароны рэспублікі,— заявіў Павел Казлоўскі,— павінна стаць работа над стварэннем ваеннай дактрыны Беларусі, якая адпавядала б ідэі стварэння суверэннай, нейтральнай, бяз'ядзернай дзяржавы. Гэта павінен быць афіцыйна прыняты, зацверджаны на дзяржаўным узроўні дакумент. Хаця не выключана, што, улічваючы асаблівасці стварэння дзяржаўнасці і Узброеных Сіл, можна пакуль прыняць і дактрыну пераходнага перыяду, час дзеяння якой быў бы абумоўлены дасягненнем асноўнай ваенна-палітычнай мэты рэспублікі — нейтралітэту і канчатковым фарміраваннем усіх абаронных структур.

Ствараючы Узброеныя Сілы рэспублікі, неабходна выпрацаваць збалансаваны падыход да развіцця ўсіх родаў войск з акцэнтам на абаронЧыя сілы. Ядром Узброеных Сіл рэспублікі павінны быць прафесіяналы высокага класа.

У сённяшніх палітычных умовах і нашых эканамічных магчымасцях найбольш рэальна гаварыць аб стварэнні групоўкі сухапутных войск агульнай колькасцю каля 40 тысяч. Яе асновай стануць войскі Беларускай ваеннай акругі. Найбольш важную ролю ў структуры нашых Узброеных Сіл будуць займаць боегатоўныя злучэнні і часці, перш за ўсё дэсантныя і дэсантна-штурмавыя, здольныя дзейнічаць на любым напрамку, адкуль зыходзіць пагроза рэспубліцы.

Асноўныя задачы Ваенна-паветраных сіл, якія павінны складацца з авіяцыі рознага прызначэння, — прыкрыццё найбольш важных аб'ектаў, падтрымка войск, перакідка грузаў. Войскі Проціпаветранай абароны складуць адзіную сістэму надзейнай абароны паветранай прасторы рэспублікі, адміністрацыйна-палітычных цэнтраў, прамысловых вузлоў і камунікацый. Агульная колькасць войск ВПС і ППА будзе каля 30 тысяч чалавек.

У цэлым прадугледжваецца мець Узброеныя Сілы рэспублікі больш чым на 40 працэнтаў меншыя ў адносінах да войск, якія дыслацыруюцца ў Беларусі.

Акрамя таго, ствараючы свае Узброеныя Сілы і захоўваючы на сваёй тэрыторыі кантынгент стратэгічных сіл, неабходна зрабіць глыбокі аналіз асобага геастратэгічнага становішча Беларусі. Праз рэспубліку і над ёю праходзяць найважнейшыя міжнародныя камунікацыі, і Еўрапейскае супольніцтва павінна быць зацікаўлена ў захаванні стабільнасці ў нашым рэгіёне. Пазбягаючы нават самых нязначных прыкмет ядзернага шантажу, дыктату і ультыматыўнасці ў дыялогу з Захадам, Беларусь мае права разлічваць на кампенсацыю добраахвотнай адмовы ад статуса ядзернай дзяржавы. У абмен на гарантыі ваенна-стратэгічнай бяспекі Захад можа прапанаваць многае. І мы не павінны баяцца разумнага, цывілізаванага палітычнага торгу. Трэба смялей ісці на дыялог па ваенных пытаннях з нашымі бліжэйшымі суседзямі. Вакууму тут быць не павінна.

Я спадзяюся, што нам удасца прыйсці да пагаднення з іншымі дзяржавамі СНД па праблемах матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. Мы гатовы плаціць за ўсё тое, чаго няма ў рэспубліцы, але што неабходна для забеспячэння войск. Для гэтага, перш за ўсё, неабходна вызначыць і сфарміраваць разумныя ваенныя праграмы развіцця Узброеных Сіл рэспублікі з улікам яе эканомікі. Адпрацаваць план закупак матэрыяльна-тэхнічных сродкаў для патрэб абароны. Перагледзець усе нарматыўныя дакументы па забеспячэнню войск, назапашванню і эшаланаванню запасаў узбраення, ваеннай тэхнікі. Для ўтрымання войск у існуючай групоўцы, якую рэспубліка бярэ на сваё забеспячэнне, запатрабуецца каля 12 мільярдаў рублёў. З улікам закупак узбраення і ваеннай тэхнікі гэтая сума можа ўзрасці да 17—18 мільярдаў. Такая сума для бюджэту рэспублікі не па сілах.

Выйсце з гэтай складанай сітуацыі — скарачэнне войск, адмова ад закупак узбраення і тэхнікі ў бліжэйшыя два гады, пераход да распрацоўкі ваеннага бюджэту па гадах, зыходзячы з наяўных магчымасцей.

Што тычыцца камплектавання войск, то ў яго аснову павінны быць пакладзены прынцыпы спалучэння ўсеагульнага воінскага абавязку з добраахвотным паступленнем на ваенную службу па кантракту. У перспектыве мэтазгодна ўвесці альтэрнатыўную службу.

**7 мая 1992 года Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч сустрэўся з вышэйшым камандным саставам Узброеных Сіл рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКУ: В. КЕБІЧ віншуе міністра абароны Рэспублікі Беларусь П. КАЗЛОЎСКАГА з прысваеннем яму воінскага звання генерал-палкоўніка.**



*БЕЗ ГАРАНТЫІ НА БУДУЧЫНЮ?..*



# МЫ ВЕРЫЛІ Ў ДОБРУЮ КАЗКУ

**Памятаецца, у школьныя гады мы верылі ў добрую казку: што былі паўсюль у часы царскага праўлення Ванькі Жукавы, дзеці падзямелля, якія радаваліся кавалачку хлеба, непасільная дзіцячая праца... Адным словам, нікому непатрэбныя маленькія людзі, чый лёс нікога не хваляваў, не прымушаў старэйшых праяўляць да іх ні літасці, ні спагады. Але вось прыйшоў Кастрычнік. І адразу ж «добры дзядзька» Макаранка і яго паплечнікі крута ўзяліся перабудоўваць гэты свет: усіх беспрытульных змяшчаюць у працоўныя калоніі, кормяць і адзяваюць, навучаюць прафесіям, даюць пуцёўку ў жыццё — усё як мае быць. І быццам адразу не стала дзіцячых слёз і гора, зажылі хлопчыкі і дзяўчынкі прыпяваючы.**



**Мы станавіліся дарослымі. І з часам прыходзілі да думкі, што наша дзяцінства не было бязвоблачным, што вера ў дабро і справядлівасць, у спагаду людскую не больш, чым казка. Нельга без уздрыгу чытаць сёння дакументы і ўспаміны сведак пра тое, як у часы калектывізацыі да пакарання смерцю прыгаворваліся падлеткі толькі за тое, што збіралі ў полі пасля жніва каласкі, каб не памерці з голаду; як у часы вайны «старылі» тых жа падлеткаў, дабаўляючы годдва, і накіроўвалі ў самае пекла баёў, адкуль ніхто не вяртаўся, як на вялікіх будоўлях камунізму трацілі здароўе зусім яшчэ юныя грамадзяне СССР... Ды ці мала яшчэ іншых такіх прыкладаў!**

**Можа што змянілася цяпер?! Мяняецца, але, на жаль, не ў лепшы бок. Бо ўсё больш становіцца сірот, адзінокіх, расчараваных у жыцці дзяцей, расце злачыннасць, з якой ужо не могуць справіцца ні школа, ні праваахоўныя органы, ні бацькі. І фінал добра вядомы: працоўныя калоніі. Хаця трэба было б называць іх сваімі імёнамі — турмы, дзе, як вядома, жыццё несалодкае. (На здымках: у адной з працоўных калоній, што размешчана ў Магілёве. Афіцыйна: спецыялізаванае прафесійна-тэхнічнае вучылішча). Дзяржава па-ранейшаму з высокіх трыбун клянецца ў любові да дзяцей, абяцае зрабіць іх шчаслівымі. Але пакуль, як нагадвае мудрая французская прымаўка, любові не існуе, ёсць толькі знакі любові.**

**Усё часцей і часцей мы задаём сабе пытанне: што чакае нашых дзяцей у будучыні! Адказу пакуль няма. Час непрадказальны. Ні для кога — ні для дарослых, ні для дзяцей.**



Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

## СТАРОНКІ БАГАТАЙ І НЕЗНАЁМАЙ ГІСТОРЫІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

# РЫСЫ КРЭЎНАСЦІ

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны даследуе нароўні з іншымі і такую тэму: «Прысутнасць беларускай культуры ў свеце». Ёсць многа матэрыялаў і пра тое, як пасля пераломнага 1956 года палітычная «адліга» паспрыяла новаму бачанню нашай Бацькаўшчыны з боку Латвіі, як праходзіла «дыфузія» культур двух спрадвечна родныcных народаў-суседзяў. Праўда, на той час або была забыта, або замоўчвалася культурна-асветная дзейнасць беларускай (карэннай!) нацыянальнай меншасці ў даваеннай Латвіі. Разам з першымі калгасамі адышлі ў нябыт апошнія беларускамоўныя класы ў школках Латгале, паўднёва-ўсходняй частцы Латвіі, былой частцы расійскай Віцебскай губерні, дзе спрадвеку жывуць беларусы. Яшчэ многія з былых настаўнікаў-беларусаў знаходзіліся ў высылках за Уралам ці, вярнуўшыся на раскіданыя гнёзды, ціха сядзелі, настрашаныя карнымі «органамі», баючыся нават свайго ценю. Двух гадоў не дажыў да вядомага XX з'езда КПСС вучоны-фалькларыст і педагог Сяргей Сахараў, які, паводле слоў яго дачкі Ірыны, «быў маральна забіты» пяцігадовай ссылкай у Казахстан, а пазней—горкім жыццём за адпрэчнай 15-кіламетровай рысай ад Рыгі, дзе была сям'я.

Ці мы забыліся, якімі фанфарнымі былі пеністыя «дэкады» і крыклівымі «Дні культур». Тады была выказана ўпершыню крылатая фраза бурліва-застойных гадоў: «Калі мне гавораць аб дружбе народаў, мая рука адразу цягнецца да шклянкі...»

Але і тады ішла непрыкметная спорная работа па ўсталяванню шчырых сапраўдных узаемасувязяў. Напрыклад, Пятро Масальскі, ён жа Пятро Сакол (1905—1985), ужо не пісаў вершаў, не аднаўляў знішчаную падчас яго «фільтрацыі» ў Хабараўскім краі картатэку свайго латышска-беларускага слоўніка. Для сябе ён перакладаў Уладзіміра Караткевіча на... рускую мову і асмеліўся аднаго разу сустрэцца, нарэшце, са сваімі аднадумцамі, былымі сябрамі-супрацоўнікамі па вірлівай, усцешнай даўняй культурна-асветнай рабоце. Вы толькі ўслухайцеся ў маркотлівы стукат слоў яго ўспамінаў: «...З Настассяй Георгіеўнай Крэйц мы не бачыліся якіх пяцьдзесят гадоў. А было калісьці, што сустракаліся тут, у Рызе, амаль штодня...»

Вось ужо ўшчэнт была раздаўлена колішняя беларуская еднасць!

У свой час завітваў і я да Настассі Крэйц (Уладзімір Пітулаўскі, адзін з лідэраў беларускага руху, называў яе ў свой час Тасюшай). Сівая жанчына апавядала пра сустрэчы з Янкам Купалам у Рызе, пра сваю педагагічную работу ў савецкіх дзіцячых прытулках... Углядаюся зараз у старэчы почырк аднаго з яе лістоў да мяне: «Прашу выбачыць за неправідловы правапіс, бо я ня ведаю мовы так, як яе ведаюць у Мінску. Акрамя таго, я з 1945 года ня мела магчымасці ні гаварыць, ні чытаць па-беларуску... Нам (гэта сястрэ і мне) вельмі прыемна, што фота Варвары знойдзе мейсца ў Музэю Янкі Купалы. Ці думалі мы калі аб гэтым?!

У 20-х гадах я і мая сястра выступалі ў тэатры, ігралі пад прозьвішчам нашае маці—Вашкевіч. Варвара ўдала йграла Паўлінку.

Хачу дабавіць трошкі пра маму. Калі мне было 3—4 гады, то ўкладваючы нас спаць, наша мама казала нам казкі. І пра Бая баіла: «Ішоў Бай па сьцяне, нёс лапці на сьпіне. І сабе, і жане, і дзяцёнку па лапцёнку...» Ах, гэты Бай!..»

Многае зрабілі на беларускай ніве ў Латвіі сёстры Крэйц-Вашкевіч. Ці гэта не прыклад—творчая дзейнасць двух паядналых родаў — таго сапраўднага інтэрнацыяналізму, якога так і не дасягла афіцыйная палітыка былога СССР?

Так вось, аднаго разу, асмеліўшыся, Пятро Масальскі зноў вярнуўся ў сваю амаль загібелую беларускасць. Яго адроджаная душа ўзняла апалыя ветразі. Мы зараз маем выдадзеную ў «Мастацкай літаратуры» яго кнігу «Дайны». Публікуюцца і пераклады латышскіх народных казак... І вось выходзіць на божы свет яшчэ адна работа перакладчыка Пятра Масальскага, узнаўляючы старонкі такой багатай і такой незнаёмай гісторыі нашай культуры, — успаміны Ю. Крэйца аб Полацкай настаўніцкай семінарыі.

На добры спажыў, як кажуць у нас на Прыдзвінні.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**



**НА ЗДЫМКУ: (сядзяць злева направа) Міхаіл КАЛІНІН, Настасся КРЭЙЦ, невядомы супрацоўнік рэдакцыі «Голас Беларуса», Кастусь ЕЗАВІТАЎ, Пятро МАСАЛЬСКІ, Пятро МІРАНОВІЧ.**

# У ПОЛАЦКАЙ НАСТАЎНІЦКАЙ СЕМІНАРЫІ

## *УСПАМІНЫ*

### ЛАТЫШЫ Ў СЕМІНАРЫІ

Паступіўшы ў жніўні 1886 года ў Полацкую настаўніцкую семінарыю, мы (мой школьны таварыш А. Абрэніет і я) ужо сустрэлі тут двух латышоў: К. Кушціса і Д. Віеглыня. Абодва яны раней вучыліся ў Балтыйскай настаўніцкай семінарыі ў Рызе, але за свае «гарачыя галовы» былі адтуль выключаны. Тут яны вучыліся ўжо ў апошнім класе. Адначасова з намі паступіў і В. Віхман, годам пазней — К. Раўда і А. Маршан, а ў 1888 годзе — яшчэ Абэлтынь, І. Платар і два браты Лусісы. Усе адзінаццаць латышоў пасля заканчэння семінарыі працавалі настаўнікамі, галоўным чынам, ва ўсходняй Латвіі.

Большасць з названых латышоў так і засталіся школьнымі працаўнікамі, некаторыя ж у сваім жыцці пайшлі па іншых шляхах. Так, Абрэніет падарожнічаў у Палесціну (апісанне яго друкавалася ў газеце «Витебские ведомости»). Віеглынь спярша працаваў настаўнікам, пазней перайшоў у кантрольную палату ў Віцебску, а ў 1914 годзе быў ужо гарадскім галавой Віцебска. Маршан у 1917 годзе перасяліўся ў Сібір. Платар вучыўся далей, скончыў два інстытуты: Віленскі настаўніцкі і Маскоўскі камерцыйны. Пры буржуазнай Латвіі быў інспектарам рускіх пачатковых школ, пазней настаўнікам прыватнай сярэдняй школы. Успомнілася тут здарэнне з К. Кушцісам. Працуючы настаўнікам, ён меў намер арганізаваць хор з мясцовай латышскай моладзі, у сувязі з чым быў выкліканы дырэктарам віцебскіх народных школ і атрымаў суровую вымову за тое, што хоча вучыць юнацтва спяваць па-латышску (гэта, маўляў, «настаўніку ў Віцебскай губерні недаравальна»), таксама за тое, што мае сваю фісгармонію, г. зн. «жыве ў раскошы, што для сельскага настаўніка непрыстойна».

Трэба сказаць, што ў Полацкай настаўніцкай семінарыі латышы ніколі не былі адасоблены ад хлопцаў-беларусаў. Ні настаўнікі семінарыі, ні вучні не глядзелі на нас як на людзей, ніжэйшых за сябе. Было нават так, што семінарыстаў-латышоў часам выдзялялі сярод іншых, у чым мы пераканаліся не адзін раз.

### ПЕРШЫЯ МЕСЯЦЫ Ў ПОЛАЦКУ

Уступныя экзамены ў семінарыю мы здалі здавальняюча, за выключэннем славянскай мовы, якую ў сваіх школах не вучылі. Нам дваім, мне і Абрэніету, прызначылі па палове стыпендыі, г. зн. па 27 рублёў кожнаму на першае паўгоддзе. Больш сродкаў семінарыя не мела. Але нам сказалі, калі мы застаемся і будзем добра вучыцца, калі на другое паўгоддзе вызваліцца яшчэ якая стыпендыя, то яе прызначаць нам, і мы будзем прыняты ў інтэрнат.

Тут трэба растлумачыць, што Полацкая семінарыя рыхтавала настаўнікаў для дзвюх губерняў: Віцебскай і Магілёўскай. На ўтрыманне вучняў падрыхтоўчага класа казна сродкаў не давала. Іх выдзялялі дзве гэтыя губерні: Віцебская — 54 рублі ў год на кожнага вучня, Магілёўская — адпаведна 50 рублёў. Плацельшчыкамі былі сяляне, бо ў семінарыі вучыліся пераважна сялянскія дзеці, ды і будучыя настаўнікі прызначаліся для вясковых, сялянскіх школ. Грошы, колькі іх прыпадала з кожнай воласці, спаганялі валасныя праўленні, а затым перасылалі дырэктару семінарыі. Я ж і Абрэніет былі з іншай губерні і таму не мелі права на стыпендыю ў падрыхтоўчым класе. І толькі таму, што адна стыпендыя па Віцебскай губерні ў той час была свабодная, яе прызначылі нам па палове. 27 рублёў на чатыры з паловай месяцы — гэта 6 рублёў на месяц.

Колішнія выхаванцы семінарыі, а цяпер настаўнікі, якія прывезлі сюды сваіх вучняў, параілі нашаму настаўніку кватэру Васільевай — за Чырвоным мостам, па дарозе на Ефрасіннеўскі манастыр. Настаўнік завёў нас туды, дамовіўся з гаспадыняй аб жыллі, харчаванні і мыцці бялізны — за 5 руб. 50 кап. у месяц, г. зн. да канца года 24 руб. 50 кап. за кожнага, развітаўся з намі і паехаў. Такім чынам мы засталіся адны ў чужым горадзе, сярод іншага народа — зусім у другім свеце. Пачалося новае, незвычайнае жыццё.

Васільева прыняла на кватэру восем семінарыстаў. Групка невялікая, але пярэстая: з трох губерняў, ад трох народаў. Туліліся мы ў двух невялікіх пакойчыках: у адным вучыліся і елі, у другім спалі. Цесна нам было вельмі, але я гэтага тады не адчуваў: сын працоўнага, я ўжо дома быў да ўсяго прызвычаены. Толькі не разумею, як гаспадыня магла за такія грошы — 5 рублёў 50 капеек у месяц — пракарміць чалавека, няхай і падлетка. Але тады я наядаўся добра: два разы на дзень — чай з хлебам, так званым сітнікам, на абед — мясная страва, а ў нядзелю ці свята — яшчэ і салодкае. Што ад усяго гэта заставалася гаспадыні — не ведаю.

Дом Васільевай быў на самай ускраіне горада, а за ім знаходзіліся шырокія капусныя агароды з вялікімі, як добрыя кубельцы, качанамі; такіх я ніколі і нідзе не бачыў. Недалёка ад дома пралягала чыгунка — можна было бачыць і прыпынак. Насупраць жа, на другім баку вуліцы, за вялікім пладовым садам, — стромкі левы бераг Палаты. Правы бераг быў нізкі, а дно пясчанае, таму сюды гараджане прыходзілі купацца.

Заняткі ў семінарыі пачаліся 16-га жніўня. Напярэдадні ў семінарскай царкве адбыўся малебен — як звычайна перад пачаткам вучэння. У падрыхтоўчым класе для нас, выпускнікоў латышскіх школ, нічога асаблівага новага не было. Па рускай мове ў сваёй пачатковай школе мы ўжо прайшлі этымалогію Кірпічнікава, а тут граматыку яшчэ зусім не пачыналі. Па арыфметыцы ў семінарыі карысталіся задачнікам Верашчагіна, а мы ў сваёй школе прайшлі значна цяжэйшы задачнік Малініна і Бурэніна. Тут толькі трэба было яшчэ вучыцца тэорыі арыфметыкі — па падручніку тых жа аўтараў. Зусім новай для нас была славянская мова. У хор мяне пакуль што не прынялі, бо я быў якраз у такім узросце, калі ламаецца голас.

У 1886 годзе ў падрыхтоўчы клас былі прыняты 42 юнакі, але ў 1890 годзе з іх закончылі курс толькі 13.

Перад калядамі ў нашай «калоніі» засталіся толькі чатыры пансіянеры. Вольнымі аказаліся і некалькі стыпендый Віцебскай губерні, што давала нам магчымасць атрымаць на другое паўгоддзе поўную стыпендыю і перасяліцца ў інтэрнат. На калядныя канікулы я застаўся яшчэ ў пансіянаце Васільевай, бо ў майго бацькі не было грошай мне на дарогу, ды і сам ён туліўся ў чужых.

### МОВА

У сваёй школе ў Латвіі мы вывучалі рускую літаратурную мову і ўжо маглі на ёй добра гаварыць — ды інакш і не вытрымалі б уступных экзаменаў. Едучы ў семінарыю, мы думалі, што ў Полацку сустрэнемся з рускімі і рускай мовай, але выявілася зусім іншае. У Віцебскай губерні, ды і ў Полацку жылі беларусы, і мова ў іх — адметная ад рускай. Мова нашых школьных таварышаў-беларусаў (хоць і яны таксама, як і мы, вывучалі ў сваіх школах тую ж самую рускую літаратурную мову) моцна ад яе рознілася. Школа не змагла знішчыць гэту прыроджаную асаблівасць, і мой слых адразу ж адчуў яе адметнасці.

Найперш і найбольш выразна гэтыя адметнасці выяўляліся ў фанетыцы.

І ў лексіцы было шмат беларускага, чаго мы ў рускіх слоўніках не сустракалі: евоный, ейный, гэный, гэтый, скула, пихать...

У сінтаксісе таксама былі такія асаблівасці, якіх у рускай літаратурнай мове няма: даўно мінулы час — мы были пообедавши.

У лексіцы было шмат агульнага з польскай мовай, што мы пачулі ўпершыню: ті, чі ёсь, як, якій, маш, праз, нехай, німа, костёл, ксёндз, пан, паніч, паненка, грошы, смачный, смашный, шкода.

Гэтыя асаблівасці засталіся ў маёй памяці, галоўным чынам, таму, што кіраўнік падрыхтоўчага класа ваяваў з імі штодзённа, на кожным кроку, праз увесь навучальны год. Нам, семінарыстам, трэба было ўсё гэта засвоіць, бо і нам самім пазней у сваіх школах належала «ваяваць» з такімі самымі асаблівасцямі.

**Юрыс КРЭЙЦ.**

(Працяг будзе).

# NO CONSEGUIRAN ASUSTARNOS CON KARABAJ




La prensa republicana publicó una declaración firmada por nueve científicos e intelectuales de Bielorrusia, con el académico Radim Garetski at frente, reclamando devolver a la república la ciudad de Vilnius y el Territorio de Vilnius, incluido en Lituania en 1940.

"El problema referente a la demarcación del territorio étnico y de las fronteras estatales junto con la reconsideración de las acciones y anexiones improcedentes, no es absurdo, sino un fenómeno natural en el contexto del renacimiento y la formación de autonomías nacionales y Estados independientes" — hacen constar los autores de la declaración. Según ellos, no podrán asustarlos con los ejemplos de Karabaj o Yugoslavia. En el llamamiento dirigido al Soviet Supremo de la república se percibe el tono de ordeno y mando: "examinar, exigir, encargar y recomendar". Indudablemente, el Parlamento comentará esta declaración. Máxime cuando en su sesión ordinaria el Soviet Supremo de la república discutirá el problema referente a las fronteras estatales.

Stanislav Shushkévich, Presidente del Soviet Supremo de Bielorrusia, dijo que tras la declaración no se oculta fuerza política alguna. Entretanto, el académico Radim Garetski es un líder de "Gramada" (Asamblea) socialdemócrata bielorrusa. Este partido presentó la candidatura de Garetski para el puesto de jefe del bloque político "Nóvaya Belarús", al cual, además de "Gramada". se adhirieron el Partido Campesino y dos sindicatos. A decir verdad, el académico renunció el papel de líder del nuevo bloque antes de efectuarse las elecciones.

Es curioso señalar que el grupo del académico Garetski no fuera el primero en llamar a recortar la frontera entre Bielorrusia y Lituania. Ya en marzo de 1990 la dirección del PC de Bielorrusia se refirió a la posibilidad de presentar reclamaciones territoriales a la república vecina. Este hecho tuvo lugar inmediatamente después de proclamada la independencia de Lituania.

Los movimientos partidarios del renacimiento nacional califican de erróneos o, por lo menos, de imprudentes los intentos de efectuar el reparto territorial. Zenón Pazniak, líder del Frente Popular de Bielorrusia (BNF) y de la oposición parlamentaria, estima que los problemas nacional-territoriales pueden ser resueltos en el marco de la "nueva Europa" y en modo alguno de la "nueva Bielorrusia". Máxime cuando las reclamaciones territoriales presentadas a Lituania complicarían la posibilidad de crear una alianza mar Negro-Bálico, a la cual, siguiendo la lógica histórica, tiende Bielorrusia. Las primeras figuras del BNF — hoy por hoy la más influyente fuerza opositora de la república — lo han declarado en más de una oportunidad.

**Larisa SAENKO**

# La conspiración de los débiles

El 19 de agosto, precisamente en vísperas de la firma del nuevo Tratado Federal, el día comenzó con la aparición en las pantallas del televisor de un locutor de rostro sombrío: "Transmitimos a continuación la Declaración de la dirigencia soviética..." La anulación de los programas de televisión, los tanques en las calles de Moscú, las noticias sobre una sorpresiva dolencia, que dejó inepto al Presidente legítimo del país y, como si fuera poco, la composición del Comité Estatal para el Estado de Emergencia (CEEE) que usurpó el poder, estos máximos cargos en el KGB, el ejército y el partido comunista.., todo parecía seguir un guión muchas veces presentado. Tal vez por eso, el primer choque rápidamente cedió lugar a la confusión y, más tarde, a la esperanza. Relamente, ¿es capaz de materializar un golpe de Estado el equipo que se otorgó el absurdo nombre de CEEE y que estuvo integrado por personas que hacía mucho habían perdido su batalla política?

El día trajo el primer alivio. Se supo que Boris Yeltsin se encontraba en la "Casa Blanca", al igual que el presidente del Soviet Supremo Ruslán Jasbulátov y el primer ministro Iván Siláev. El Presidente de Rusia intervino, encaramándose sobre un tanque, ante la muchedumbre agolpada frente a su residencia. Se hizo evidente que, en realidad, el golpe aún no había sido consumado, que sólo había sido una intentona. Ya en horas del día los moscovitas se lanzaron a la "Casa Blanca". Tenían presente lo ocurrido en Vilnius y, al igual que los lituanos en invierno, estaban dispuestos a enfrentar a los tanques. A las cinco de la tarde comenzó la conferencia de prensa de los golpistas. No se sabe si por temor o por abuso de vodka, al aspirante a dictador, el vicepresidente Yanáev, le temblaban las manos. Los reporteros de televisión, privados del derecho a comentar los sucesos, las mantenían en primer plano. En estas horas muchos entendieron que la tragedia había de tornarse en farsa. Pero hubo una circunstancia que obligaba a mostrarse muy prudente en los pronósticos.

¿Dónde se encontraba Gorbachov? Si algo le sucediera, el poder pasaría a Yanáev ya acorde con la Constitución... Ninguno de quienes tenían una idea clara acerca del KGB dudaba de que pudiera ocurrirle de todo. Fue moderada la reacción de los presidentes de las repúblicas soviéticas. Parte de los mismos apoyaron al CEEE, otros hicieron declaraciones muy evasivas. La comunidad mundial diplomáticamente rechazó el empleo de palabras mordaces.

Las autoridades de Rusia quedaron, en rigor, solas en su confrontación con el CEEE. ¿Tuvo Yeltsin en aquellos días la seguridad de resistir este enfrentamiento? La esperanza existió. El líder ruso y quienes estuvieron a su lado, sin duda, se daban cuenta de que no habría un triunfo fácil para el CEEE. Para aquel entonces, en el ejército iban creciendo los ánimos democráticos, aparecieron sus disidentes en el KGB y el poder monolítico del partido comunista se vino abajo... Pero lo fundomental fue la población. La gente que olvidó el miedo y sintió el sabor de la libertad, por supuesto, fue la principal esperanza del primer Presidente de Rusia.

Y la nueva Rusia resistió. Al sobrevivir dos horribles noches, ya el 21 de agosto celebró la victoria. El vicepresidente Rutskói con la pistola en la cintura, las hogueras en la plaza frente a la "Casa Blanca", el Presidente Gorbachov vestido de entre casa, descendiendo por la escalerilla del avión, su esposa abrazando a la nieta aún presa de miedo, todo ello, filmado al instante, de inmediato se convertía en historia. Y pronto se hizo claro que fueron las últimas páginas de la historia de la URSS y las primeras de otra historia, absolutamente nueva.

**Liudmila TELEN**

# FIESTAS DE TODOS LOS TIEMPOS

Cabe señalar que las tradiciones y ritos auténticos son producto orgánico de la vida del pueblo, y en modo alguno pueden ser impuestos por directrices "de arriba". Pese a la fuerte campaña publicitaria explicando que todas las fiestas populares anteriores a 1917 eran fruto de su ignorancia, el pueblo seguía celebrándolas, como lo hacía a lo largo de dos, tres o cinco siglos. A veces tuvo que sufrir crueles represiones por la celebración de algunas de estas fiestas, entre ellas la Noche de Iván Kupala.

Se consideraba que en la noche del 23 al 24 de junio, cuando el florecimiento de los prados alcanza su punto álgido, se reaniman los espíritus malignos y las abejas liban el mejor zumo de las flores, llega el momento en que brujas y curanderos recogen hierbas y raíces especiales. No es casual que numerosas adivinanzas y creencias populares poéticas están relacionadas con la Noche de Iván Kupala. Después de recogidas las hierbas, la gente se dirigía al baño de vapor y allí se azotaba con escobillas cubiertas de flores. Con la puesta del Sol comenzaban los juegos en que participaban adultos y niños; durante toda la noche la gente encendía hogueras, bailaba y cantaba en corro, ante todo las canciones dedicadas a Iván Kupala, y luego se bañaba en el río o el lago para depurarse. Muchos hombres y mujeres hacían el amor en esta noche. Este rito, que la Rusia cristiana recibió en herencia de la religión pagana, estaba lleno de erotismo, y por esto precisamente el poder laico y la Iglesia perseguían a cuantos lo practicaban.

La actitud hacia otra festividad, la Máslennitsa — que data también de la época pagana — era tolerable. Esta fiesta se celebra con motivo del reencuentro de la primavera con el invierno. La Máslennitsa — una fiesta muy alegre para todos — se celebraba la última semana de febrero y los primeros días de marzo. Durante toda la semana la gente hacía montones de hojuelas que se servían con manteca, crema de nata, miel, huevos y carne. Las troicas (conjuntos de tres caballos que tiran del carruaje) y trineo adornado de cascabeles, campanillas y flores de papel recorrían las calles. Giraban tiovivos, en las hogueras quemaban el muñeco de la Máslennitsa, cantaban loas a los recién desposados y recordaban a los difuntos. La gente cifraba esperanzas en la fecundidad de la tierra.

**Tatiana ANDRIASOVA**



*De nuevo se empeoró la situación en el puesto fronterizo de control "Puente de Varsovia". A veces los turistas tienen que esperar tres días, haciendo una cola larga, hasta que llegue el momento de cruzar la frontera. Desgraciadamente el estado de sanidad de está zona fronteriza también deja mucho que desear. El horario preciso para cruzar la frontera, la limpieza, el servicio bien hecho — todo esto está solamente en el papel.*

*EN LA FOTO: en el puesto fronterizo de control "Puente de Varsovia".*

*Foto E. KABIAK*

# Los cuadros se forman en España

**Diez licenciados universitarios de los países del Este (entre ellos seis procedentes de la Comunidad de Estados Independientes) están en España realizando un Master of Business Administration (M.B.A.) en la escuela de negocios Madrid Business School.**

Los empresarios Carmelo Lacaci y José Miguel Lombardía han sufragado a título personal este proyecto que tiene como objetivo posibilitar la formación en España de los futuros empresarios de la Europa del Este.

El programa formativo, de dos años de duración e impartido integramente en inglés, tiene como objetivo facilitar a los becarios una concepción global e integradora de la gestión directiva y empresarial de Occidente.

Las becas cubren la formación, los viajes y gastos de manutención y estancia de los diez universitarios.

El programa de mecenazgo se puso en marcha en 1990. La experiencia volvió a repetirse en 1991 con peculiaridad de que los cinco becarios que iniciaron en octubre el "master" y que finalizarán sus estudios en julio de 1993 proceden de la Federación Rusa.

Para atender al plan de formación de esta segunda promoción, se han creado becas dotadas con tres millones y medio de pesetas por persona y año. En la selección de los becarios han intervenido más de cincuenta instituciones académicas y de investigación de la ex Unión Soviética y ha tomado parte activa el semanario moscovita "Novedades de Moscú".

El programa, dividido en seis períodos lectivos, comprende el estudio de un total de 21 asignaturas relacionadas con las áreas de control financiero y de recursos, economía, finanzas, comunicación aplicada a los negocios, management, marketing y técnicas para la gestión directiva. Los universitarios del Este completan el ciclo con dos asignaturas sobre práctica empresarial y gestión directiva en Europa.

La actividad formativa se completa en España con la asistencia a conferencias y jornadas de interés, la organización de seminarios y la preparación de encuentros con personalidades relevantes de la economía y las finanzas.

Redactor de la página Kastús SHALIASTOVICH

## ДАДАТАК ДА АПУБЛІКАВАНАГА

# АЛЬФА І АМЕГА ЯГО ЖЫЦЦЯ

Артыкул «Цярністы шлях Міколы Равенскага», які друкаваўся ў №№ 16—18 «Голасу Радзімы» за 1992 год, як ужо адзначалася, быў напісаны на падставе ўспамінаў сваякоў і сяброў кампазітара, людзей, якія ведалі М. Равенскага да яго ад'езду на Захад, жылі з ім побач. Звестак пра выдатнага музыку, як і яго твораў, на Беларусі амаль няма. Апошнія дзесяць гадоў Мікола Равенскі жыў за мяжой, дзе быў добра вядомы сярод беларускай эміграцыі, дзе шырока выконвалася яго музыка.

Першыя спробы вярнуць на Радзіму спадчыну кампазітара былі зроблены выдатным вучоным, даследчыкам Адамам Мальдзісам у час яго паездак да беларусаў у Лондан. Мой артыкул быў ужо напісаны, калі ў Скарынаўскі цэнтр у Мінску на імя А. Мальдзіса прыйшлі з Амерыкі матэрыялы пра М. Равенскага. Знаёмства з імі дало дадатковыя звесткі пра кампазітара, магчымасць больш поўна ацаніць яго ўклад у беларускую культуру.

Адзін з артыкулаў пра кампазітара заканчваецца вельмі знамянальным, на маю думку, абзацам: «На адной з апошніх бачынаў маленькай запісной кніжыцы, падпісанай «М. Равенскі», дрыжачай рукой выведзены контуры межаў Беларусі. А пасярэдзіне тою ж рукой напісаны два словы: Альфа і Омэга».

Жыццё для Міколы Равенскага пачыналася і заканчвалася Беларуссю і нават за мяжой было неаддзельным ад Бацькаўшчыны праз песні і музыку роднага народа, якім ён прысвяціў сябе і служыў да апошняга дыхання.

Успаміны А. Адамовіча, сучасніка кампазітара, даюць магчымасць уявіць постаць і аблічча М. Равенскага, адчуць прывабныя рысы яго характару. Па словах Адамовіча, ён быў шчупленькі, нават сухенькі, з купінаю густых, даўгаватых, назад зачэсаных валасоў. Апрануты найчасцей быў у звычайны тады «фрэнч» ці марынарку, у «нацыяналізацыі» вопраткі далей за вышытую кашулю і вузенькі паясок-саматканчык ніколі не ішоў. Ад постаці Равенскага павявала ціхай сціпласцю і нейкай асаблівай ветласцю. Стоячы на сцэне, Равенскі высцерагаўся якога-небудзь вонкавага эфекту, імкнучыся ўцягнуць публіку ў нутраное перажыванне выконваемай хорам рэчы.

Мікола Равенскі першым пачаў ствараць музыку на словы Максіма Багдановіча, наймузыкальнейшага з дарэвалюцыйных беларускіх паэтаў. Ім былі пакладзены на музыку «Слуцкія ткачыхі», «Завіруха», «Не кувай ты, шэрая зязюля», а ў час вайны ў Чэрвені кампазітар напісаў музыку да Багдановічавай «Пагоні».

У 20-я гады вельмі прыхільна ставіўся М. Равенскі («як відаць, найбольш ляжала сэрца») і да паэзіі Канстанцыі Буйло. Акрамя згаданых раней твораў — «Люблю наш край», «Я шукала», «Каб я крыллі мела», у 1922—1923-х гадах ён стварыў сваю першую вялікую музычную рэч — сюіту на словы паэмы К. Буйло «Курган».

Кампазітар паклаў на музыку ўступ да паэмы В. Дуніна-Марцінкевіча «Гапон», верш Ц. Гартнага «Ах ты, Нёман-рака», які здабыў на той час не меншую папулярнасць, чым «Люблю наш край».

Сем гадоў у Маскве, дзе кампазітар атрымліваў закончаную музычную адукацыю, ён лічыў найбольш спакойнымі і дабрабытнымі ў сваім жыцці, любіў іх успамінаць як ледзь не «залатую пару» свайго жыцця і творчасці. У Маскве была даволі вялікая беларуская культурная калонія, пераважна са студэнтаў, якія ў асобе Равенскага знайшлі добраахвотнага хормайстра. Аднак у гэты час ён адыходзіць ад хормайстарскай дзейнасці і захапляецца кампазіцыяй. Працу стымулюе знаёмства і сяброўства з паэтам Уладзімірам Дубоўкам, чалавекам надзвычай таленавітым і эрудзіраваным, выпускніком брусаўскага літаратурна-мастацкага інстытута. Ідэйны, інтэлектуальны, творчы ўплыў Уладзіміра Дубоўкі на Міколу Равенскага вызначальны не толькі для маскоўскіх гадоў. У. Дубоўка, па словах кампазітара, сфарміраваў яго як творчую асобу, яго ўплыў кіраваўся на тое, каб зрабіць з М. Равенскага «музыку-кампазітара, піянера таго беларускага «ўзвышша», якое пабачаць вякі і народы ў музыцы, ініцыятарам і карыфеем якога ў літаратуры быў Дубоўка». На словы паэта М. Равенскім напісаны выдатныя, складаныя па сваёй кампазіцыі творы. Аднак апагея іх супрацоўніцтва дасягае ў пару, калі кампазітар бярэцца за оперу «Браніслава» на лібрэта, напісанае спецыяльна для яго Дубоўкам, паводле ўласнай аднайменнай паэмы. «Браніслава» друкавалася ў часопісе «Узвышша». У цэнтры твора быў вобраз маладой дзяўчыны, якая пратэставала супраць паняволення і панскага прыгнёту. У лібрэта драматычны элемент быў узмоцнены, завостраны, уводзіўся і вобраз Лірніка, які быццам падштурхоўваў слухача да ўспрыняцця дзеяння, што адбывалася ў оперы. Яго арыя пачыналася зваротам да сялян:

**Дабрыдзень вам у згодзе**
**і парадку!**
**Жадаю долі радаснай**
**і светлай,**
**Уроду ў полі і прыплоду**
**ў статку**
**Жадаю вам і ўсёй краіне**
**ветлай!**

Не мог не помніць М. Равенскі гэтых словаў, калі пісаў музыку да «Магутнага Божа» Наталлі Арсеньевай, дзе яна ўзносіла сваю малітву «за Беларусь, ціхую і ветлую».

М. Равенскі прыступіў да «Браніславы» спрактыкаваным майстрам кампазіцыі. Гэта была светлая опера, якая паўставала ў гуках, калі і «не радасных, дык сапраўды светлых, крыштальных, празрыстых — як ніколі дагэтуль у гэтага кампазітара». Галоўныя арыі Браніславы былі створаны на мелодыях народных песень Магілёўшчыны. Камандзіроўка ў гэты край, дзе пабывалі Равенскі і Дубоўка, творча ўзбагаціла абодвух. «Збіраючы на Магілёўшчыне песенны матэрыял для оперы «Браніслава», — успамінаў М. Равенскі, — мы шмат часу правялі разам. Ён браў мяне пад руку і мы, дыскутуючы, паволі йшлі ад вёскі да вёскі. Сяляне ўжо ведалі нас і, пэўна, смяяліся з нашае пары: ён высокі і плячысты, а я малы і худы».

Калі опера была амаль скончана, здарылася непапраўнае. Улетку 1930 года Дубоўку як нацдэма арыштавалі і выслалі з Беларусі. Увесь матэрыял М. Равенскі вымушаны быў здаць у народны камісарыят асветы Беларусі, адкуль яго назад ніколі ўжо не атрымаў. Сёння на руках у Вольгі Аляксеенка, дачкі кампазітара, ёсць толькі арыя Браніславы, якую ёй пасля смерці бацькі прыслала з Англіі цётка. Ці знойдзецца ў архівах калі-небудзь уся опера кампазітара М. Равенскага «Браніслава», першая беларуская нацыянальная опера?

У папярэднім артыкуле пра М. Равенскага я пісала, што не ведаю, калі пачалося яго захапленне народнай песняй. Як можна меркаваць па ўспамінах яго вучняў і харыстаў, спадар Равенскі любіў расказваць пра сваю працу ў Навагрудку перад першай сусветнай вайной, потым у Мінску і іншых месцах. На іх пытанне, калі ён зацікавіўся народнай песняй, адказаў, што адбылося гэта ў Навагрудку, дзе ён кіраваў царкоўным хорам і працаваў настаўнікам спеваў. У вёсцы непадалёку ад Навагрудка была ў яго дзяўчына, якую ён часта хадзіў сустракаць. «Аднаго разу я выйшаў крыху раней. Чакаючы, прысеў на прыдарожным камені. Абапал дарогі пераліваліся каласамі жыта, і паасобныя грамадкі жнеяў, параскіданыя па ўсім полі, увіхаліся каля яго. Мяне тут ведалі добра, і, відаць, пабачыўшы, найбліжэйшая група жнеяў завяла жніўную песню. Іншыя, далейшыя, адна за аднэй падхоплівалі. Урэшце спявала ўсё поле. Адлегласць між групамі была вялікая, і гукі неяк дзіўна мяшаліся між сабой; да гэтага далучылася рэха. Усё разам тварыла неапісальную цудоўную сімфонію. Я сядзеў як зачараваны. Жнеі ўжо замоўклі, а рэха яшчэ доўга пералівалася, заміраючы ўрэшце ўдалечы. Не раз я ў жыцці ўспамінаў той вечар і тую дзіўную сімфонію. У сваіх творах я спрабаваў перадаць некаторыя фрагменты з яе. Але адтварыць цэласць, гэта не на людскія сілы і здольнасць. З таго часу я і зацікавіўся народнай песняй».

Ёсць дадатковыя звесткі і пра жыццё Міколы Равенскага ў пасляваенны час у Нямеччыне ў шматлікіх лагерах для перамешчаных асоб. Знаходзім у іх пацвярджэнне, што і гэты нялёгкі і складаны час ён не змарнаваў, не бяздзейнічаў, не зрокся музыкі. Найбольш ажыў і жыў у ім хормайстар ды школьны настаўнік, аднак не загінуў і кампазітар. Ён запісаў і згарманізаваў мноства народных песень (пераважна палескіх), пачутых ад такіх жа ўцекачоў, якім быў сам.

У Рэгенсбургу ён стварыў хор, які праз два месяцы заваёўваў першыя месцы на міжнародных конкурсах. За кароткі час з групы вясковых дзяўчат пад кіраўніцтвам М. Равенскага вырас беларускі жаночы ансамбль, які «сваёй народнасцяй захапляў слухачоў незалежна ад іх стану ці нацыянальнасці». Ансамбль пачынаў спяваць новую песню, і яе спявалі ўсю-

## З ГІСТОРЫІ ВЁСАК ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ЗОНЫ

# СЯБРОВІЧЫ...

Замест уступу. На сённяшні дзень практычна ўсе жыхары пакінулі гэту вёску, што ў Чачэрскім раёне. Засталіся чатыры сям'і без працаздольных людзей, ехаць у іншыя мясціны ў іх няма ніякага жадання. З пачатку кастрычніка ў Сябровічах зачынілі магазін, медпункт жа ліквідавалі яшчэ раней. Жыць тут нельга: шчыльнасць забруджання цэзіем-137 складае 45 кюры на квадратны кіламетр. Былая вялікая і прыгожая вёска стаіць разрабаванай, уражвае злавеснай пустатой.

Чарнобыль выклікаў шмат праблем — экалагічных, эканамічных, сацыяльных, дэмаграфічных, гістарычных. Апошнія з іх — гістарычныя — нездарма і пастаўлены на апошняе месца. Дагэтуль на іх амаль не звяртаюць увагі. Такое стаўленне як быццам зразумелае: трэба перш за ўсё выратаваць і ўладкаваць людзей (хоць і робіцца гэта цераз пень-калоду). Між тым, знікненне вёскі ў чарнобыльскай зоне — гэта нешта большае, чым простая ліквідацыя населенага пункта. Гэта яшчэ адыходжанне ў нябыт мясцовых звычаяў і традыцый, паданняў і легенд, асаблівасцей мясцовай гаворкі, каштоўных назваў малых геаграфічных аб'ектаў — балот, азёр, лясоў, узвышшаў, палёў... Па часцінках знікае тое, з чаго ў канчатковым выніку складаецца гісторыя Бацькаўшчыны. Нешта трэба тэрмінова рабіць, каб паспець запісаць, захаваць «летапіс» кожнай «чарнобыльскай» вёскі. Зразумела, што ў адным выпадку такі «летапіс» будзе больш вялікім і падрабязным, у іншым — усяго некалькі фактаў. Але ж рабіць трэба. Гомельскі абласны фонд культуры ўжо тры гады назад распачаў складанне своеасаблівай гісторыка-тапанімічнай Чырвонай кнігі вёсак Гомельшчыны. Фрагменты гэтага рукапіснага «летапісу», выдаць які асобнай кніжкай, на жаль, няма магчымасці, і прапануюцца «Голасу Радзімы».

***

Вёска Сябровічы размешчана за 15 кіламетраў на поўдзень ад Чачэрска, паблізу правага берага ракі Сож. Сябровіцкія наваколлі вельмі багатыя на археалагічныя помнікі. Калі давядзіцца знаёміцца з мясцовымі старажытнасцямі, складваецца ўражанне, што людзі жылі тут амаль бесперапынна на працягу пяці тысяч гадоў.

У 1926 годзе вядомы беларускі археолаг К. Палікарповіч знайшоў за 1 кіламетр на паўночны ўсход ад Сябровіч, ва ўрочышчы Ліпаў Брод, на пясчаных узвышшах сожскага берага, рэшткі паселішча, якое існавала яшчэ ў III тысячагоддзі да новай эры. Той жа К. Палікарповіч адшукаў недалёка ад гэтага паселішча ледзь прыкметныя сляды бескурганнага могільніка — месца пахавання людзей у першай палове II тысячагоддзя да новай эры. У VII—III стагоддзях да новай эры ваколіцы сучасных Сябровіч насяляла адно з плямён Мілаградскай культуры. Гэта племя пакінула пасля сябе гарадзішча, якое размяшчаецца сёння на паўднёва - ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе рэчкі Дзёменкі, прытока Сожа. У той жа час за паўкіламетра на ўсход ад цяперашняй вёскі, ва ўрочышчы Ліпаўка, існавала селішча. Тут жыло іншае племя, якое адрознівалася, як можна меркаваць, ад насельнікаў гарадзішча трохі іншым спосабам жыцця. Рабіць такі вывад дазваляе розніца паміж самімі тыпамі пасяленняў — умацаваным гарадзішчам і адкрытым, лёгкадаступным селішчам. У IX—XII стагоддзях тэрыторыю Сябровіч займалі радзімічы.

Вытокі населенага пункта Сябровічы трэба шукаць у XVII стагоддзі, дакладней, у другой яго палове. Інвентар Чачэрскага староства ад 1704 года, пераказ якога зроблены ў кнізе «Могилевская старина. Сборник статей «Могилевских губернских ведомостей» (выпуск III.— 1902—1903 гг.)», выдадзенай пад рэдакцыяй Е. Раманава ў Магілёве ў 1903 годзе, сведчыць, што ў самым пачатку XVIII стагоддзя ў Сябровічах налічвалася 5 гаспадарак. У распараджэнні гаспадароў было 2 «службы» зямлі (служба — пэўная колькасць зямлі ў Вялікім княстве Літоўскім і Рэчы Паспалітай, якую апрацоўваў селянін і выплачваў за гэта падатак грашыма або выконваў сялянскія павіннасці). Сябровіцкія гаспадары якраз плацілі грашовы падатак, які, згодна з «Інвентаром», складаў 30 «коп грошай». Копа грошай — грашовая адзінка, якая мела розную вартасць у розныя гады і ў залежнасці ад таго, якой яна (грашовая адзінка) з'яўлялася — літоўскай ці польскай.

Такім чынам, у 1704 годзе Сябровічы былі малым пасяленнем — усяго 5 «дымоў». «Дымам» лічыліся кожны двор, манастыр, дом шляхціца з усімі пабудовамі, а таксама кожная вясковая хата, гаспадар якой апрацоўваў зямлю. У Сябровічах пяць гаспадароў утваралі пэўны «кааператыў», ці сябрыну, бо іх зямельныя надзелы і ўся ўласнасць, у тым ліку і гаспадарчы інвентар, былі аб'яднаныя, лічыліся агульнымі. Зразумець гэта дазваляюць значэнні слоў **«сябр, сяброве, сябровать»**, адлюстраваных у «Словаре древнего актового языка Северо-Западного края и Царства Польского» М. Гарбачэўскага (Вільна, 1874, с. 333): «сябръ, сяброве — соучастник, соучастники, имеющие нераздельную собственность, движимую или недвижимую». «Тежъ уставуемъ, ижъ коли бы было братьи колько дельное, або нездельное, або которые колвекъ иные сяброве, мели которые люди суместные, нерозделные данники або сумежники» (I статут Литовский, разд. VI, арт. 32); «сябровать — пользоваться чем-либо вместе с другими, сообща». У «Словаре белорусского наречия» І. Насовіча (Санкт-Пецярбург, 1870, с. 631) «сябр, сябрук» — «сатаварыш, саўдзельнік у справе ці ў працы», «сваяк, брат». Слова сябар у адзначаных значэннях лягло ў аснову абагульненай мянушкі сябровічы, якая адносілася да першапачатковых «сяброў», саўдзельнікаў - гаспадароў, да першых пасяленцаў вёскі, яе заснавальнікаў. Кім яны былі — братамі, сваякамі ці проста гаспадарамі, якія вырашылі аб'яднаць сваю маёмасць, цяжка сказаць. Калектыўная мянушка сябровічы ў сваю чаргу абумовіла ўзнікненне геаграфічнай назвы Сябровічы. Сябровічамі сталі называць не толькі саміх «сяброў» — гаспадароў, але і месца іх жыхарства.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

**Кампазітар Мікола РАВЕНСКІ (скрыпка) з кампазітарам Алесем КАРПОВІЧАМ у Беларускім студэнцкім доме ў Лювене ў Бельгіі ў 1952 годзе.**

**(З альбома Янкі ЗАПРУДНІКА).**

ды. Артыстаў сустракалі і праводзілі гарачымі воплескамі. Тысячы беларусаў, раскіданых на Нямеччыне, адарваных ад роднай глебы, чакалі беларускую песню. Яна была для іх жывой вадой. І цуд гэты тварыў Мікола Равенскі. А ноччу, калі лагер сціхаў, можна было пачуць голас скрыпкі. Тыя, хто яшчэ не спаў, казалі: «Равенскі творыць».

Усе, хто піша пра кампазітара, нязменна пішуць і пра яго скрыпку, якая, нібы верны сябра, заўсёды з ім у радасці і ў горы. «І вось ужо мы невялічкай грамадкай садзім яго з нязменным скрыпічным футаралам як найбольшым набыткам-«манаткам» у цягнік, — успамінае А. Адамовіч пераезд М. Равенскага з Нямеччыны ў Лювен. — І вось махае рукой на адвітанне, адношаны далей і далей тым цягнікам наш «Лірнік краіны ветлай».

Спадзяюся, што і гэта яшчэ не ўсё, што, можа, у бліжэйшы час нешта зноў даведаемся мы пра М. Равенскага. Абуджаецца да яго цікавасць на Радзіме. Увага да асобы і творчасці кампазітара не застаецца не заўважанай і за мяжой, дзе ведаюць пра яго значна болей, чым мы.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ГЕРОЙ ТРОХ НАРОДАЎ — ЗЫГМУНТ МІНЕЙКА

Калі я чую слова «герой», то ў памяці ўстаюць вобразы лепшых людзей Беларусі, славутых сваёй храбрасцю, доблесцю, самаахвярнасцю. У гэтай кагорце беларусаў — Усяслаў Чарадзей, Вітаўт Вялікі, Каліноўскі, Урублеўскі, Сандэрс, Казей, Харужая. Мне сёння хочацца ўспомніць і імя Зыгмунта Мінейкі (сапраўднае поўнае прозвішча — Мінейка-Газдава Сігізмунд Станіслававіч, псеўданім Баравы).

Як і чаму гэта прозвішча з'явілася ў маіх запісных кніжках, успомніць не магу. Але чымсьці зачараваў, заінтрыгаваў, прымусіў задумацца мяне гэты чалавек. Ці не таму, што сваімі справамі, сілай характару ён можа служыць для нас узорам? Шкада, што, пастаянна імкнучыся ўперад, мы забываем азірнуцца назад, успомніць сваіх легендарных Данка, аддаць ім належнае.

Сярод выдатных дзеячаў узброенага паўстання 1863—1864 гадоў у Беларусі і Літве пачэснае месца займае і прозвішча Зыгмунта Мінейкі.

Нарадзіўся Зыгмунт Мінейка ў 1840 годзе ў вёсцы Зялёны Бор (цяпер Барунскі сельсавет Ашмянскага раёна Гродзенскай вобласці) у сям'і шляхціцаў. Аднак ёсць і іншыя звесткі, быццам нарадзіўся ён у Вільні 27 снежня 1825 года. Ды з гэтымі сцвярджэннямі цяжка пагадзіцца: чаму ж тады яго ўвесь час вабіла Ашмяншчына, дзе Мінейку ведалі сяляне? Але затое ўжо дакладна вядома, што будучы герой трох народаў вучыўся ў Вільні, у гімназіі, разам з будучым класікам беларускай літаратуры Францішкам Багушэвічам.

Як і ўсе сапраўдныя шляхціцы, Зыгмунт Мінейка вырашыў аддаць сябе служэнню Айчыне на ваенным полі дзейнасці і пайшоў вучыцца ў інжынерную ваенную школу ў Пецярбургу. Трэба адзначыць, што ваенная вывучка, інжынерныя веды пасля вельмі спатрэбіліся нашаму земляку. Вучыўся ён старанна, кола інтарэсаў яго было шырокае, але сэрца, душа яго балелі за родную зямлю, за няшчасны, паднявольны і гарот-

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ПОЗНЯЕ ДЗІЦЯ ПЕРАБУДОВЫ

**З рэктарам Беларускага інстытута праблем культуры Уладзімірам СКАРАХОДАВЫМ гутарыць наш карэспандэнт Таццяна АНТОНАВА**

**— Выбачайце, але пра ўстанову, якую вы ўзначальваеце, пачула ўпершыню, хаця даволі доўга займаюся культурай. Позняе дзіця перабудовы!**

— У нейкім сэнсе так. Як самастойная структура наш інстытут нарадзіўся восенню мінулага года. Але ідэя яго стварэння распрацоўвалася значна раней. Дарэчы, узнік інстытут не на голым месцы, а на базе трох ліквідаваных устаноў: рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра, рэспубліканскага кабінета па навучальных установах культуры і мастацтва, рэспубліканскага інстытута павышэння кваліфікацыі.

**— І займаецца тымі пытаннямі, што і ліквідаваныя ўстановы! Назва ж — інстытут праблем культуры — прэтэндуе на многае...**

— З ліквідаваных устаноў мы ўзялі на работу толькі лепшых спецыялістаў-практыкаў, большасць — новыя работнікі — прафесары, дактары навук, кандыдаты. Усе яны працуюць па кантракту. Дзякуючы таму, што інстытут па аплаце аднесены да навуковай установы першай катэгорыі, мы змаглі заключыць кантракты з вядомымі навукоўцамі. Па штату ў нас павінны працаваць 180 чалавек. Але сёння — 100. Справа з кадрамі даволі няпростая, на жаль, класных спецыялістаў, якія добра ведаюць праблемы культуры Беларусі, недастаткова. Ёсць патрэба ў культуролагах, сацыёлагах, філосафах, эканамістах.

Каб вы лепш маглі ўявіць, чым займаецца інстытут, я павінен коратка расказаць і пра яго структуру. Ён складаецца як бы з дзвюх частак. Адна — арганізацыйна-творчая — займаецца праблемамі народнай творчасці (фальклор, традыцыйная культура, рэгіянальна-этнічная) і навукова-метадычнага забеспячэння ўстаноў культуры пытаннямі павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў, мастацкай адукацыяй у Беларусі. Другая частка — навукова-даследчая. Бо для таго, каб прымаць рашэнні, дзейнічаць, неабходна навуковае абгрунтаванне праблем. Трэба мець даследаванні, прагнозы, праграмы. Навукова-даследчай работай у нас займаецца аддзел сацыялагічна-метадалагічных праблем культуры. Ёсць аддзел арганізацыі вольнага часу і развіцця народнай творчасці, аддзел мастацкай адукацыі і павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў. Такім чынам, наш інстытут мае навукова-практычны профіль.

**— Давайце з вамі пагаворым пра саму культуру, на якую ў дзяржаве ніколі не хапала грошай. Дасюль, як мне здаецца, няма навукова-абгрунтаванай канцэпцыі яе развіцця. А ў папярэднія дзесяцігоддзі мы з вамі былі сведкамі розных падыходаў да вырашэння праблем культуры, нярэдка проста авантурных, а то і шкодных. Чаго вартыя разрэкламаваныя так званыя сацыяльна-культурныя комплексы або стандартныя Дамы культуры ў вёсках са стандартным наборам гурткоў...**

— Многія пытанні, я ведаю, вырашаліся раней на ўзроўні інтуіцыі, але ж зусім не на падставе разумнай дзяржаўнай палітыкі, аналізу сітуацыі. Больш таго, прыходзілі ў заняпад існаваўшыя дзесяткі вякоў народныя промыслы, гінула на вачах народнае мастацтва, тое, што сілкуе нацыянальную культуру, з'яўляецца яе жывой крывёю. Цяпер сітуацыя змянілася. Як вы ведаеце, у Беларусі быў прыняты Закон аб культуры, які пры ўсіх сваіх вартасцях мае прыкметы паспешлівасці і недасканаласці. Пэўныя навуковыя распрацоўкі па культуры зрабіла рабочая група, якую ўзначальваў прафесар Адам Мальдзіс.

**— Ці не маглі б вы коратка расказаць, на якіх праблемах будзе сканцэнтравана дзейнасць вашага інстытута ў бліжэйшыя гады!**

— Пачалася праца над некалькімі праграмамі па самых галоўных і стратэгічна важных напрамках развіцця культуры. Назаву ўсе пяць праграм: «Адраджэнне і развіццё нацыянальнай культуры Беларусі», «Культура і рынак», «Кадры», «Міжнароднае супрацоўніцтва», «Стварэнне інфармацыйных сістэм у галіне культуры». Кожная з гэтых праграм мае свае падпраграмы. Напрыклад, для ажыццяўлення першай праграмы распрацоўваецца навуковая канцэпцыя і праграма дзяржаўнай падтрымкі народнага мастацтва, промыслаў і рамёстваў. Практычна будуць ажыццёўлены тыя мерапрыемствы, якія спрыяюць адраджэнню, падтрымліваюць тонус нацыянальнай культуры. Іх даволі многа. Напрыклад, для мінчан у цэнтры фальклору «Белая дача» будуць адкрыты розныя майстэрні, дзе можна навучыцца саломапляценню, роспісу, пляценню паясоў, вышыўцы, праведзены рэгіянальны фестываль беларускага народнага танца «Пярэзвы», падрыхтаваны набор паштовак з беларускімі народнымі музычнымі інструментамі і многае-многае іншае.

У рамках гэтай праграмы будуць ажыццяўляцца падпраграмы — «Адраджэнне традыцыйнай мастацкай культуры Палесся», «Адраджэнне і развіццё культуры вёскі».

**— У сувязі з глабальнымі грамадска-палітычнымі пераменамі, якія перажываюць краіны сацыялістычнай арыентацыі, і наша Беларусь у тым ліку, адбываюцца даволі цікавыя працэсы ў культуры. З аднаго боку, ідзе адраджэнне нацыянальных традыцый, культуры, а з другога — беспардонная інтэрвенцыя масавай культуры з Захаду, у прыватнасці, амерыканскай. Гэта сітуацыя небяспечная і для культуры, і для суверэнітэту маладых дзяржаў. Праблема вельмі вострая, праўда! І якое вырашэнне прапануюць беларускія спецыялісты!**

— Дзяржаўная палітыка ў адносінах да гэтай праблемы ўжо выпрацоўваецца. Дзве падпраграмы працуюць на яе ажыццяўленне. Быў зроблены аналіз бягучага кінарэпертуару, і на яго падставе распрацаваны формы сацыяльна-эканамічнай падтрымкі пракату фільмаў беларускіх кінематаграфістаў. Акрамя гэтага, з мэтай абароны і аховы духоўнай культуры Беларусі ад пранікнення парнаграфіі, прапаганды культу насілля і жорсткасці падрыхтавана Палажэнне аб Рэспубліканскай экспертнай камісіі па ацэнцы твораў літаратуры, мастацтва і публіцыстыкі, сродкаў масавай інфармацыі і прадметаў на наяўнасць у іх гэтых элементаў, выпрацаваны парадак распаўсюджвання, рэкламавання, публічнай дэманстрацыі любым спосабам фізічнымі ці юрыдычнымі асобамі прадукцыі эратычнага зместу. Усё гэта абсалютна нармальныя меры ў цывілізаванай дзяржаве, якая хоча захаваць нацыянальныя прыярытэты.

**— Яшчэ пару гадоў назад, у разгар так званай перабудовы, у прэсе часта пісалі, што культура і бізнес несумяшчальныя. Канешне, у ідэале яно так. А ў жыцці што атрымліваецца!**

— Як бы мы ні ставіліся да камерцыі, да бізнесу ў культуры, жыццё настойліва патрабуе вучыцца выжываць ва ўмовах рынку. Больш таго, да гэтых новых умоў трэба спецыяльна рыхтавацца. Раней у нас сфера культуры цалкам фінансавалася дзяржавай, якая трымала яе заўсёды на паўгалоднай дыеце. Усё было прадумана зверху, рэгламентавана, пад пастаянным ідэалагічным кантролем. Затое і думаць самастойна не было ніякай неабходнасці. Цяпер жа яна з'явілася. Таму мы і прыступілі да распрацоўкі праграмы «Культура і рынак». У рамках яе падпраграмы «Камерцыйная дзейнасць у сферы культуры» мы б хацелі распрацаваць узорныя тыпы рацыянальнага выбару стратэгіі камерцыйнай дзейнасці дзяржаўнымі ўстановамі культуры.

Адначасова пры інстытуце створана школа менеджэраў, куды мы запрашаем кіруючых работнікаў самых розных галін культуры. Зазначу, жадаючых вельмі шмат. Людзі бачаць, што ім зараз вельмі неабходна атрымаць добрыя веды, каб адчуваць сябе ўпэўнена.

**— Ці можна сённяшні стан нашай культуры ахарактарызаваць як крызісны!**

— Я б так не сказаў. Мне часта даводзіцца ездзіць па рэспубліцы. Традыцыйная беларуская культура жывая. Карані яе жывыя. Мне здаецца, што не трэба надта ламантаваць і згушчаць фарбы.

**— Я думаю, для вас не сакрэт, што работнік культуры — непрэстыжная цяпер прафесія. Самая малааплатная. Калі раней артыст, музыкант, навуковец былі вельмі паважанымі людзьмі ў грамадстве, то цяпер іншыя героі — бізнесмены, кааператары, прадпрымальнікі. Як вы думаеце, гэта надоўга!**

— Я думаю, што гэты перыяд напрамую звязаны з нашым эканамічным становішчам. Таму, мяркую, гэта надоўга. Хаця многае тут залежыць ад таго, якую палітыку мы будзем выпрацоўваць сумесна з органамі ўлады. Калі яна будзе нармальная, чалавечая, тады тэрмін «панавання» новых герояў скароціцца.

**— Скажыце, ці існуюць інстытуты падобнага тыпу ў іншых краінах!**

— У рэспубліках былога СССР такіх устаноў няма. Мы — першыя. Але нам звоняць з Расіі, з іншых рэгіёнаў, цікавяцца, як мы працуем, просяць пракансультаваць. Польскія калегі, дарэчы, ствараюць таксама інстытут праблем культуры. Магчыма, у іншых краінах свету ёсць інстытуты, якія займаюцца выпрацоўкай і ажыццяўленнем культурнай палітыкі сваіх дзяржаў. На жаль, мы яшчэ не маем кантактаў з імі. Няма інфармацыі пра іх. А хацелася б. Мяркуем наладзіць сувязі з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Мы можам быць карыснымі адзін аднаму. Хацелася б вось яшчэ што сказаць. Адсутнасць рэспубліканскай інфармацыйнай сістэмы культуры, якая ў сваю чаргу была б уключана ў еўрапейскую і сусветную, трымае нас у поўнай ізаляцыі, абмяжоўвае кантакты. Словам, мы збіраемся аб'яднаць свае намаганні па стварэнню сістэмы са Скарынаўскім цэнтрам, нацыянальнай бібліятэкай, музеем і іншымі ўстановамі культуры.

**— Жадаю вам поспехаў у гэтай нялёгкай справе.**

## ВЕСНАВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ

# ЗМАГАННЕ ДА АПОШНЯГА

Вясна ў гэтым годзе наляцела раней звычайнага, і я пайшоў у паход па знаёмых сцяжынках.

...Вось тут спрадвеку ганарліва на варце нёманскага берага стаяў магутны дуб. І днём і ноччу, як у люстэрка, углядаўся ў празрыстую плынь. Даверыўшыся старому, буслы пабудавалі на ім сваё жытло. Шмат пакаленняў чырванадзюбых прыгажуноў паляцелі ў свет з гэтай буслянкі.

Ад басаногага дзяцінства да замаразкаў на скронях я люблю хадзіць сюды з вудамі. Бывала, сядзеш пад ім у атвоі, што зраблі яго карані, і чакаеш свайго рыбацкага шчасця, радуешся жыццю, цешышся прыгажосцю наднямоння.

Але кожную вясну злосныя паводкавыя воды з года ў год усё падбіраліся да дуба-асілка, відаць, зайздросцілі яго прыгажосці, падмывалі яго карані. «Нямнога яму засталося», — з жалем падумаў, праходзячы тут мінулым летам.

На жаль, не памыліўся. Вясною, як з палёў хлынулі паводкавыя воды, Нёман не вытрымаў іх націску, выйшаў з берагоў, заліў сенажаці і, каб хутчэй ад іх пазбавіцца, рэчышчам імкліва гнаў каламутныя воды.

«Вось цяпер я табе адпомшчу», — злосна гаманіла плынь і накіравала ўсю сваю моц да дуба. Каламутныя воды дзень і ноч з новаю сілаю рвалі бераг, падмывалі карані, дабіраліся да дрэва. Плыні дапамагаў яшчэ і вецер, якому дуб шмат гадоў не даваў гуляць на нёманскім прасторы. У сівога дзядулі не было ўжо моцы з імі змагацца, і ён паваліўся ў рэчышча. Яго ніжнія галіны ўхапіліся за дно рэчышча, верхнія, моцна трымаючы буслянку, узняліся над вадою.

Дуб хоць і ляжаў, але моцна трымаўся за бераг. Аб яго галлё з яшчэ большаю злосцю стукалася, бурчэла і пенілася плынь. З яго галінак, што былі над вадою, пачалі выглядаць першыя лісточкі. Яны ж не ведалі, што здарылася тут, бо іх бацька змагаецца да апошняга.

На іх з жалем глядзелі цёплае вясновае сонца і сумныя суседкі-вербы.

**Яўген КРАМКО.**



**ЦЁТКА**

...Люблю мой сад, як расцвітае,
Як салавей свой трэль вядзе,
Як цвет галінку прыгібае,
Як пчолка мёд адтуль нясе.
Люблю мой сад ў маёвым ранку,
Як тоне ён ў расістай мгле.
Як ліпа шэпчацца пры ганку
І як зязюлька «куку» шле.
Люблю мой сад пад белым цветам,
Люблю, зялёным як стаіць;
Люблю, як грушы спеюць летам
І як работай ён кіпіць...

## СПОРТ

### ЦІ РАДАВАЦЦА, ЦІ ЗАСМУЧАЦЦА...

Завяршыліся паўфінальныя гульні прэтэндэнтаў першынства свету па шахматах. Упершыню за многія дзесяткі гадоў спартсмены былога Саюза не прабіліся ў фінал. Апошнімі прайгралі свае матчы Анатоль Карпаў і Артур Юсупаў адпаведна англічаніну Найджэлу Шорту і галандцу Яну Ціману. Менавіта апошнія ў барацьбе паміж сабой і вырашаць пытанне, каму сустрэцца з чэмпіёнам свету Гары Каспаравым.

Есць паведамленні і вельмі прыемныя. Мінчанка Алена Заяц падзяліла першае-другое месцы на міжнародным турніры ў Алуште. А яе зямляк Уладзімір Палей выйшаў пераможцам самага масавага ў Еўропе турніру ў Будапешце.

### БЕЗ АЛЕЙНІКАВА

Зборная былога Саюза па футболу правяла таварыскі матч з нацыянальнай камандай Англіі. Гульня завяршылася ўнічыю—2:2.

На гэты раз мы не ўбачылі на полі мінчаніна Сяргея Алейнікава. Італьянскі клуб «Лечэ» не адпусціў яго ў Маскву. Але трэнеры зборнай СНД цвёрда разлічваюць на Сяргея ў час фіналу першынства Еўропы, які пройдзе сёлета ў Швецыі.

### АЛЕНА РУДКОЎСКАЯ ПАЕДЗЕ Ў БАРСЕЛОНУ

...Магчыма і не толькі яна. На першынстве СНД па плаванню беларуская спартсменка заняла другое месца ў заплыве брасістак на 200 метраў. Добрыя шанцы на паездку на Алімпійскія гульні мае мінчанін Дзмітрый Харук. Ды яшчэ не ўсё страчана і ў армейца Сяргея Міхнаўца, гродзенца Алега Данілікa.

### ЯК ГЭТА ЗРАЗУМЕЦЬ?

Гандбалісты мінскага СКА гуляюць у розыгрышы Кубка ІГФ. І выступаюць даволі ўдала. Беларускія спартсмены дайшлі да фіналу, дзе двойчы сустрэнуцца з нямецкім клубам «Ралау-Масейнхайм».

Але вось парадокс: беларускія аматары не бачаць сваю каманду дома, мінскі СКА «дамашнія» матчы гуляе за мяжой. Цікава, чаму?.. Пераканаўчага адказу аматары спорту так і не атрымалі.

# ГЕРОЙ ТРОХ НАРОДАЎ— ЗЫГМУНТ МІНЕЙКА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

ны беларускі народ. І ўсё часцей ён задумваўся ў душнай армейскай казарме, як вызваліць яго ад насілля, даць яму волю,

Добра ведаючы родную мову, Зыгмунт на сваёй Ашмяншчыне ў 1861 годзе распаўсюджваў беларускія нелегальныя выданні. У гэты ж час ён уваходзіць у рэвалюцыйнае таварыства «Пянтковічы». Але пільныя царскія шпікі хутка даведаліся аб гэтым. Мінейка вымушаны быў выехаць за мяжу. Але і там ён жыў трывогамі і надзеямі свайго зняволенага народа.

Сёння мы дзівімся, што трэба было гэтым людзям, якія жылі ў багацці і раскошы? Чаму яны кідалі дастатак, пашану і падвяргалі жыццё небяспецы і немалой рызыцы? Але так цяжка пакутаваў беларускі народ у царскай Расіі, што не маглі іх добрыя сэрцы вынесці гэта, а рукі — не ўзяцца за зброю. І грэшна забываць гэтых бескарыслівых людзей, якія аддалі сябе служэнню простаму народу. (А між тым ні ў Мінску, ні ў Гродне, ні ў Ашмянах вы нават вуліцы імя Мінейкі не знойдзеце).

У сувязі з гэтым мне ўспамінаюцца словы з артыкула «Заснаванне Рыма і цараванне Ромула» петрашэўца Н. Мамбелі, які ў 40-я гады мінулага стагоддзя наведаў Беларусь: «І цяпер яшчэ прабягае халодная сутарга па жылах пры ўспамінах пра бачаны мной кавалак хлеба, якім жывяцца сяляне Віцебскай губерні: мука зусім не ўвайшла ў яго склад, ён зляплены з мякіны, саломы і яшчэ нейкай травы...»

У 1863 годзе Зыгмунт Мінейка зноў у роднай Беларусі, на землях да болю любімай Ашмяншчыны, дзе шырылася паўстанне сялян. Спачатку ён змагаўся ў атрадах М. Лянгевіча, а потым стаў ваенным начальнікам Ашмянскага павета, камандзірам атрада.

Вялізны раён баявых дзеянняў займаў атрад пад камандаваннем Мінейкі. Гэта былі лясы пад Гальшанамі, Бакштамі, вядомая Налібоцкая пушча.

Перада мной карта Рэспублікі Беларусь, я шукаю на ёй вёску Расолішкі, пад якой быў разбіты атрад Мінейкі. Сам камандзір у гэты дзень пазбег палону.

Мне зразумелы славуты твор Дантэ Аліг'еры, які змясціў здраднікаў аж у дзевяты круг пекла. У царскай Расіі для гэтых нікчэмных людзей прызначаліся сярэбранікі, для змагароў яна ж прыгатавала свае кругі пекла — руднікі Сібіры. Знайшліся здраднікі і прадажнікі, якія выдалі і Кастуся Каліноўскага, і Зыгмунта Мінейку... Ашмянскі кіраўнік паўстання, як і Каліноўскі, быў прыгавораны да павешання, але потым яму замянілі пакаранне смерцю на 12 год катаржных работ у Сібіры.

Па даследаваннях вучонага Г. Кісялёва, З. Мінейка на катарзе быў адным з кіраўнікоў рэвалюцыйнай арганізацыі ссыльных, у 1865 годзе ўцёк за мяжу. Па звестках другога вучонага — А. Мальдзіса, наш зямляк ужо на шляху ў Сібір здзейсніў паспяхова ўцёкі. Вось такі быў неўтаймаваны дух у гэтага чалавека.

І зноў ён вучыцца. На гэты раз у Парыжы, у акадэміі генеральнага штаба. Яго ваенныя веды і вопыт зноў знаходзяць сваё прымяненне. На барыкадах Парыжскай камуны ён паўсюдна свой. А колькі яшчэ нашых землякоў вылучылася і палягло ў сталіцы Францыі. Дні і ночы знаходзячыся ў асадзе, Зыгмунт Мінейка шмат робіць для абароны камуны. Імя яго стала легендай!

Але і зноў прыйшлося хавацца. Парыжская камуна пала. Свае глыбокія веды і вопыт інжынера Мінейка аддае будаўніцтву чыгунак і мастоў у Балгарыі, Грэцыі і Турцыі. На зямлі Элады раскрыўся яшчэ адзін дар нашага суайчынніка — археалагічны. Ён шукаў тут і адкрыў адзін са старажытнейшых храмаў у Дадоне (1876 г.), даследаваў і апублікаваў этнаграфічную карту Эпіра (1880 г.).

Самаахвярная праца на карысць новай і прыветлівай радзімы прыносіць З. Мінейку вялікі аўтарытэт і прызнанне народа. У 1910 годзе яму прысвойваюць пачэснае званне ганаровага грамадзяніна Грэцыі.

Толькі б, як гаворыцца, працаваць і працаваць. Але Еўропа ў яго час — гэта растрывожаны мурашнік. Абставіны складаліся так, што Мінейка ўдзельнічаў у вайне з Турцыяй за Крыт. Ён распрацаваў бліскучы стратэгічны план, дзякуючы якому грэкі ўзялі горад Салонікі і адну з непрыступных крэпасцей — Яніна. Усё гэта мела месца ў ходзе Балканскай вайны (1912—1913 гады).

Пасля вайны ў Зыгмунта Мінейкі адкрылася яшчэ адна здольнасць — мемуарыста. Ён напісаў захапляючы цыкл успамінаў, якія ўсё яшчэ чакаюць свайго, каб быць выдадзенымі на радзіме.

За выдатныя поспехі ў навуцы Львоўскі універсітэт выбірае З. Мінейку сваім ганаровым доктарам.

Памёр Зыгмунт Станіслававіч Мінейка 27 снежня 1925 года. Новая радзіма з пашанай і годнасцю праводзіла ў апошні шлях свайго ганаровага грамадзяніна — героя трох народаў Беларусі, Францыі, Грэцыі. З прадстаўнікоў улады Савецкай Беларусі і Камуністычнай партыі Беларусі на пахаванні свайго славутага суайчынніка нікога не было... У той час пакланяліся іншым героям.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку» Індэкс 63854. Зак. № 873.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12